ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Суды Алега Гулака і Гары Паганяйла адкладваюцца...

Суды па скаргах праваабаронцаў ГА "Беларускі Хельсінкскі камітэт", якія па незразумелых прычынах апынуліся ў спісах невыязных з Беларусі, перанесены на нявызначаны тэрмін.

Папярэдняе пасяджэнне суда Цэнтральнага раёна Мінска па скарзе кіраўніка ГА БХК Алега Гулака было прызначана на 6 красавіка, па скарзе Гары Паганяйлы ў судзе Маскоўскага раёна — на 18 красавіка. Аднак памочнікі суддзяў патэлефанавалі абодвум праваабаронцам і заявілі, што *"справы, прынятыя да разгляду, адкладваюцца і будуць прызначаныя пазней"*.

*"Інфармацыя аб асобах, унесеных у банк даных, захоўваецца 25 гадоў, і тыя, хто незаконна дзейнічаў, адказу не пазбегнуць. Праз нейкі час мы абавязкова даведаемся, ці былі ўнесены нашы прозвішчы ў спісы невыязных на законных падставах альбо не. Гэта ўжо не палітычныя ігрышчы",* — заявіў Гары Паганяйла.

На пачатку сакавіка, перад выездам за мяжу, праваабаронца наведаў Аддзел па грамадзянстве і міграцыі па месцы жыхарства, дзе дамогся, каб яго прозвішча праверылі ў базе даных асоб, выезд якім з Рэспублікі Беларусь часова абмежаваны. Аказалася, што Гары Паганяйла — у "спісах невыязных". Звесткі ў банк даных МУС былі прадстаўлены Міністэрствам юстыцыі. Падставай нібыта паслужыла справа аб банкруцтве, па якой праваабаронца з'яўляецца даўжнікам альбо зацікаўленай асобай у адносінах да даўжніка.

Паганяйла звярнуўся ў Мінюст, у МУС, у Генеральную пракуратуру — каб кожны дзяржаўны орган у рамках сваіх паўнамоцтваў праверыў, ці не парушаны ўсталяваны парадак, па якіх падставах і хто ўнёс яго ў спісы невыязных. Ні адзін орган не адказаў па сутнасці пастаўленых пытанняў. МУС адправіла заяву ў аддзел па грамадзянстве і міграцыі ГУУС Мінгарвыканкама, які растлумачыў Паганяйлу заканадаўства, якое той і так ведае. Мінюст паведаміў, што падоўжаны тэрмін правядзення праверкі. Генпракуратура параіла звярнуцца ў той жа Мінюст...

*"З неафіцыйных крыніц у мяне ёсць інфармацыя, што ніводзін суд краіны не прымаў у дачыненні да мяне адпаведнага рашэння па часовым абмежаванні выезду за межы краіны, падобную інфармацыю праз Галоўнае ўпраўленне юстыцыі ў Мінюст не накіроўваў. Падобнага роду фальсіфікацыі ў банку даных і ёсць злачынства супраць канстытуцыйных правоў чалавека і грамадзяніна, супраць інтарэсаў службы альбо супраць правасуддзя",* — заявіў Гары Паганяйла.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

# Дамы з... чароту,

## альбо Як сучасныя экалагічна бяспечныя тэхналогіі ў будаўніцтве рэалізоўваюцца ў Беларусі

За 25 гадоў паслячарнобылля вырасла цэлае пакаленне, у якога няма ўспамінаў, непасрэдна звязаных з катастрофай на АЭС. Разам з тым выбух рэактара закрануў не толькі краіны былога СССР, але практычна ўсіх жыхароў Еўропы.

*"Вось чаму,* — лічыць **Петэр Юнге-Вентруп,** кіраўнік справамі Дортмундскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра (Германія), — *Чарнобыль павінен стаць для ўсіх нас напамінкам пра тое, што неабходна нарэшце распрацаваць такую мадэль развіцця грамадства і эканомікі, якая б не ставіла пад пагрозу жыццё нашых нашчадкаў. Дзеля гэтага варта актыўна развіваць культуру памяці. У гэтай справе не павінна быць ніякіх бар'ераў паміж краінамі і палітычнымі партыямі. Прастора павінна быць без межаў, адкрытай для супрацоўніцтва ўсіх людзей добрай волі..."*

Чамусьці гэтыя словы Петэра (замоўленыя падчас прэзентацыі ягонай кнігі "Чарнобыль і еўрапейскі рух салідарнасці" пару тыдняў таму ў Мінску) успомніліся мне, калі наведаў у вёсцы Занарач цэх па вырабе будаўнічых цеплаізаляцыйных пліт з трысьнягу — чароту звычайнага... Якраз з гэтых пліт узводзіліся дамы для чарнобыльскіх перасяленцаў у Мядзельскім раёне і на Лепельшчыне. Узводзяцца і цяпер, бо тэхналогія неверагодна простая, досыць танная, а галоўнае — экалагічна бяспечная, энерга- і цеплазберагальная.



У 1991 годзе пры ўдзеле майстроў грамадскай арганізацыі глінянага будаўніцтва "Хаймштатэ Дзюнэ" і беларуска-германскай валанцёрскай грамады з'явіліся ў Нарачанскім краі першыя экадамы. Спачатку, праўда, без дазволу на будаўніцтва з боку мясцовых улад, але ўжо ў 1999 годзе арганізавалася беларуска-германская партнёрская кампанія "Экадом"...

Немцы, як вядома, народ надзіва прадпрымальны, упарты ў дасягненні пастаўленай мэты. І калі ўжо акрэслілі задачу, то абавязкова яе дамогуцца. А задача перад нямецкімі арганізацыямі заключалася не адно ў тым, каб наўпрост дапамагчы пацярпелым ад Чарнобыля людзям, але і навучыць іх жыць у новых умовах паеўрапейску — годна. Сучасныя, экалагічна бяспечныя тэхналогіі ў будаўніцтве, сельскай гаспадарцы і энергетыцы — тое, што аб'ядноўвае ўсіх еўрапейцаў. Значыцца, і беларусам варта ісці гэтым напрамкам. Бо толькі шлях салідарнасці, а не ранейшай канфрантацыі і варожасці, з'яднае ўсіх у нашым агульным доме — Еўропе. Гэта меў на ўвазе Петэр Юнге-Вентруп, калі гаварыў пра культуру памяці... Чарнобыльскую трагедыю ў 1986 годзе ён — разам з жонкай і сваімі дзецьмі — успрыняў як сваю асабістую. І таму, не раздумваючы, уліўся ў армію валанцёраў, стаў актыўна арганізоўваць дабрачынныя акцыі, ладзіць масты супрацоўніцтва з беларускімі арганізацыямі. *"Паставанне культуры памяці, — кажа ён, — гэта няспынны працэс здзяйснення добрых спраў... У арбіту стваральніцтва трэба ўцягваць як мага больш людзей — вучоных, гаспадарнікаў, палітыкаў, грамадскіх актывістаў... Гэта і будзе дзейснай салідарнасцю ў імя ўсеагульнай бяспекі, прыстойнага жыцця кожнага чалавека..."*



Але вернемся ў Занарачанскі цэх па вытворчасці будаўнічых цеплаізаляцыйных пліт з чароту звычайнага. Невялічкі цэх, арандаваны "Экадомам" у самым сэрцы Нарачанскага краю, — на сёння адзіны ў Беларусі. На жаль, адзіны, бо ягоная прадукцыя — пры талковай маркетынгавай палітыцы — магла быць запатрабаванай не толькі на Мядзельшчыне і Лепельшчыне. Там яшчэ патроху ўзводзяцца дамы па тэхналогіі энергаэфектыўнага будаўніцтва, у астатніх рэгіёнах такога амаль не назіраецца. А дарэмна, таму што дамы з чароту і гліны, ды яшчэ ў звязку з таннай электраэнергіяй, атрыманай ад электраветракоў і сонечных батарэй (усё гэта мы назіралі ў дамах вёскі Дружная) — апошні піск еўрапейскай — не моды, але цывілізацыі... Такія ці амаль такія дамы ў Германіі, Галандыі, Бельгіі скрозь і побач. Бо выгадна гаспадарам, бо зручна, танна, бяспечна для здароўя... Прыгожа, нарэшце. Няўжо дамы ў аграгарадках пераўзыходзяць па сваіх тэхнічных, энергетычных і экалагічных параметрах тыя, што мне давялося пабачыць у Мядзельскім раёне?! Ні ў якім выпадку... Нават па цане яны суадносяцца з "інкубатарскімі", якія да таго ж (як у Квасынічах Слуцкага раёна) па якасці на парадак горшыя, бо сцены палопаліся ў мароз...

Старшыня Мінскага сталічнага Саюза беларускіх прадпрымальнікаў і працадаўцаў Уладзімір Карагін, аглядваючы сціплы цэх па вытворчасці цеплаізаляцыйных чаротавых пліт, уразіўся не менш за іншых, бо ўсё настолькі проста, наколькі і перспектыўна... Перспектыўна для тых прадпрымальнікаў, якія яшчэ не прачнуліся... Па-першае, зыходны матэрыял — чарот — цалкам узнаўляльны, расце на многіх азёрах, рэках, не патрабуе вялікіх затрат пры нарыхтоўцы. Па-другое, у экалагічным плане ён абсалютна бяспечны, хутчэй нават карысны для здароўя чалавека. Гэта вам не поліхлорвініл ці рулоны з мінеральнай ваты! Цеплаізаляцыйныя якасці проста выключныя: зімою не прапускае холад, а ўлетку трымае ў памяшканні прахалоду... Далей. Вытворчасць такіх пліт не патрабуе вялікай колькасці работнікаў: двое рабочых і адзін спецыяльны станок, закуплены ў Германіі, — вось і ўсё... Праўда, занарачанскія купілі яшчэ і спецыяльны камбайн, які зімою па лёдзе скошвае чарот па берагах Нарачы ды іншых азёр.

Для вырабу саміх пліт, акрамя ацынкаванага дроту, нічога больш не патрабуецца. Адзінае патрабаванне — акуратнасць пры сартаванні сыравіны, каб, значыцца, па даўжыні чарaціны моцна не разыходзіліся... Пліты вырабляюцца таўшчынёю ў 2 і 5 сантыметраў, памерам 2х0,75 метра і 2х1,5 метра. Ніякай хіміі, ніякіх дабавак, антысептыкаў...

Пытаемся: колькі ж такіх пліт патрэбна, каб узвесці дом з чароту і гліны? Адказ дакладна-выверaны, бо якраз цяпер такія дамы і будуюцца ў вёсцы Стары Лепель: на дамок у 137 квадратных метраў патрэбна 600 метраў квадратных. Гэта з улікам таго, што дах будзе трохслойны (15 см), а сцены двухслойныя па 10 сантыметраў. Вядома, сцены ўкладваюцца на каркасную аснову, пасля тынкуюцца наверх, а яшчэ перад тынкоўкай мацуецца джутавая дзяружка. У выніку сцяна гладзенькая, нібы велікоднае яечка — і звонку, і ў сярэдзіне. Адно выбірай сабе фасадную фарбу...

Ну а як з коштам чаротавага будматэрыялу? У Германіі занарачанскія пліты бяруць па 1 еўра за метр квадратны... Вось і лічыце, з чаго выгадней будаваць дом для сям'і — з цэглы-бетону, з дрэва ці яшчэ якога матэрыялу. Самае цікавае, што дом такі стаяцьме вечна. Тынкоўка ніколі не пакаробіцца, не адваліцца, словам — любата... А ўсё дзякуючы народнай салідарнасці простых людзей, якія рушаць сцены варожасці і ўзводзяць масты еднасці і ўзаемаразумення.

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

*Мядзельскі раён.*

РЕЗОНАНС

*После опубликования статьи заслуженного юриста Республики Беларусь, профессора М.И.Пастухова "Какие политические реформы нужны Беларуси" ("НВ", 10 февраля 2012 г.) в редакцию пришли отклики читателей. Сегодня мы даем некоторые выдержки из писем и комментарий к ним М.И.Пастухова.*

## Мы живем по «искалеченной Конституции»

*Очень похвально, что у нас есть люди, которых волнует, как мы будем жить дальше и по какой Конституции. Я почти полностью согласен с рассуждениями М.И.Пастухова и считаю, что мы живем по "искалеченной Конституции"... Нам нужно обеспечить разделение властей: парламента, правительства, судов. И еще нам, белорусам, нужно восстановить исторические национальные символы. Зачем было оставлять БССРовские символы государства, когда все бывшие республики СССР, в том числе Россия, возродили свои исторические символы? И непонятно, почему на нашем государственном флаге присутствует зеленый цвет, характерный для флагов мусульманских стран? Наш флаг должен иметь белый цвет, кроме красного, потому что наш край назывался Белая Русь.*

*А что касается смертной казни, то мое личное мнение такое: не отменять. Незачем тратить деньги на содержание страшных преступников.*

***М.К.Крылович.***
*Минск.*

### КОММЕНТАРИЙ

Очень точные слова подобрал читатель М.К.Крылович по отношению к белорусской Конституции — "искалеченная Конституция". После сомнительных референдумов Конституция утратила свой демократический облик и закрепила всю полноту власти в руках одного лица — президента. Он всемогущий, всевластный и никому не подконтрольный. Все государственные органы и должностные лица действуют по его указаниям и директивам. В таких условиях говорить о законности не приходится, как и о самостоятельности каких-либо органов (парламента, правительства, судов).

Поддерживаю мнение читателя о том, что белорусам надо восстановить исторические национальные символы. Как я отмечал в своей статье, референдум по этим вопросам в мае 1995 года вообще не мог проводиться. Поэтому его итоги не имеют юридического значения, и надо всего лишь признать неконституционность этого референдума.

Что касается вопроса о смертной казни, то я, в отличие от М.Крыловича, выступаю за ее незамедлительную отмену. И не только потому, что в числе "смертников" могут оказаться не причастные к преступлению лица, но и потому, что государство не вправе распоряжаться судьбой людей, которые волею случая проживают на его территории. "Смертные" приговоры еще раз доказывают, что у государства надо забрать топор палача и перестать раздражать Европу и весь мир средневековыми рудиментами.

## ...очевиден избыток руководящих кадров...

*Отлично помню, как А.Г.Лукашенко приносил присягу на верность одной Конституции, а через два года стал действовать по новой Конституции, согласно которой вся полнота власти перешла к президенту. Беларусь стала копировать Россию, чего не следовало делать...*

*В Беларуси очевиден избыток руководящих кадров и дублирование: два правительства (второе — Администрация президента), две палаты парламента. И при избытке руководящих кадров мы имеем кризис 2011 года, за который, собственно, никто не ответил, никто не ушел в отставку.*

*Я поддерживаю варианты реформирования политической системы Беларуси, вплоть до принятия новой Конституции...*

***Н.А.Журавель.***
*Гомель.*

### КОММЕНТАРИЙ

В своем письме читатель Н.А.Журавель правильно обращает внимание на огромный государственный аппарат, который действует в нашей стране. Фактически А.Г.Лукашенко создал вокруг себя "второе" государство: Администрацию, Управление делами, Службу безопасности, службу охраны, Комитет государственного контроля, различные центры, Белтелерадиокомпанию, Академию управления, Национальный центр законодательства и правовых исследований и, наконец, Следственный комитет.

Другие государственные органы (парламент, правительство, министерства, ведомства, суды, местные органы управления) формально "не числятся" при главе государства, но находятся от него в прямой или опосредованной зависимости, в том числе через систему назначения на должности, согласование, присвоение классов государственных служащих, медицинское обслуживание и т.п.

Действительно, переизбыток "кадров", находящихся на государственной службе или одетых в ту или иную форму, налицо. Это тяжелым бременем ложится на плечи налогоплательщиков, которые от "государственного пирога" получают одни лишь крошки в виде мизерных зарплат, пенсий, пособий.

Очевидно, что бесчисленную армию чиновников надо подвергнуть "секвестированию", то есть сократить в разы, до критического минимума. Необходимо также устранить всяческое дублирование государственных функций. Именно это и предполагается сделать в ходе политической реформы. Более того, следует упразднить и саму должность президента со всеми его структурами, службами и центрами.

SOS!

## Ці зменяць сёння прысуд Сяргею Каваленку?

*Сёння ў Віцебскім абласным судзе адбудзецца разгляд скаргі Сяргея Каваленкі на ранейшы прысуд. Менавіта з-за гэтага судовага рашэння — два гады і месяц зняволення за ўхіленне ад адбыцця пакарання — Каваленка і абвясціў яшчэ ў снежні галадоўку пратэсту.*

Падставай для суда сталі рапарты міліцыянераў аб тым, што пару разоў яны не заспелі дома Каваленку, які быў асуджаны за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга на навагоднян ёлцы ў Віцебску.

Падчас галадоўкі палітвязень згубіў 40 кілаграмаў вагі. Дайшло да прымусовага кармлення. Цяпер Сяргей знаходзіцца ў псіхіятрычным шпіталі ў калоніі "Віцьба".

Яго жонка Алена Каваленка страціла ўсялякую надзею і не спадзяецца на станоўчы вырак абласнога суда. Жанчына ў адчаі. Алена толькі і змагла сказаць: *"Доктар казаў мне, што стан здароўя Сяргея стабільны, маўляў, лепш яму не робіцца, але і горш таксама. Сяргей мне сказаў учора, што харкае крывёю. Я спытала ў доктара чаму так, дык ён мне адказаў, што гэта, магчыма, капіляры пашкоджаны. Але я лічу, што Сяргея неабходна як мага хутчэй абследаваць. Вось на ноч яго зноў "фіксавалі" — прывязвалі да ложка. Навошта? Калі яны баяцца, каб кропельніцу не вырваў, то няхай бы і "фіксавалі" яго тады, калі ставяць гэтую кропельніцу. А навошта чалавека на ўсю ноч прывязваць?! Усё гэта страшна... Страўнік у Сяргея так і не запрацаваў... Што рабіць?.. Калі яго не вызваляць, то гэта, я лічу, будзе наўмыснае забойства. Я разумею гэта толькі так і не інакш".*

**Любоў ЛУНЁВА.**

НАПЯРЭДАДНІ

## Падрыхтоўка да «Чарнобыльскага Шляху»

Набліжаецца сумная дата — чарговая гадавіна трагедыі на Чарнобыльскай АЭС. Традыцыйна ў Мінску плануецца правесці шэсце-мітынг "Чарнобыльскі Шлях".

Першае пасяджэнне аргкамітэта прайшло ў штаб-кватэры Партыі БНФ. Старшынёй абралі Юрыя Хадыку.

У новастворaны аргкамітэт увайшлі прадстаўнікі як зарэгістраваных, так і афіцыйна не зарэгістраваных арганізацый — Партыі БНФ, руху "За Свабоду", АГП, кампаніі "Гавары праўду!", "Маладога фронту", Партыі левых "Справядлівы свет", кампаніі "Еўрапейская Беларусь", грамадскага аб'яднання "Экадом".

Заяўку на сёлетні "Чарнобыльскі Шлях" арганізатары панясуць у Мінгарвыканкам ужо на гэтым тыдні. Яе гатовы падпісаць Юрый Хадыка, Аляксей Янукевіч, Дзяніс Садоўскі, Наста Палажанка і Таццяна Новікава.

АФІЦЫЙНА

## Панядзелак мяняецца з суботай

*Працоўны дзень з 23 красавіка пераносіцца на суботу 28-е.*

Гэта прадугледжана пастановай Саўміна №294. Праўда, арганізацыям прадастаўлена права з улікам спецыфікі вытворчасці (работы) ажыццяўляць перанос працоўнага дня ў іншым парадку.

СИТУАЦИЯ

## Плата за отопление гаража для многих собственников нынешней зимой превысила плату за отопление квартиры

Хотите конкретный пример? Пожалуйста. В такой ситуации в Минске оказались члены гаражного кооператива "Автовек". И не только они. Такая же участь постигла тех, чьи машины стоят в гаражах кооперативов "Маяк-2", "Резонатор", "Заря-1", "Клаксон".

При этом температура в гаражах зимой была всего 2—5 градусов тепла, и поддерживается она для того, чтобы не разморозить систему пожаротушения. Беда владельцев автомест только в том, что их кооперативы являются юридическими лицами и цены на тепловую энергию для них установлены как для юридических лиц, а не как для частных потребителей. Хотя собственниками всех гаражных боксов, конечно, являются физические лица, которые объединились в юридическое лицо для решения проблем общего характера. Заметим, в каждом кооперативе примерно 1300 физических лиц, половина из которых пенсионеры, и устанавливать для них тариф как для юридических лиц, осуществляющих предпринимательскую деятельность, — несправедливо и незаконно, считают владельцы гаражей.

В знак протеста они стали засыпать письмами государственные инстанции. Вот и премьер-министру М.Мясниковичу письмо послали. *"Сегодня плата за тепло для членов гаражно-потребительских кооперативов в 2—3 раза превышает его себестоимость, — говорится в нем. — В Минэкономики, где нам устанавливают тарифы, рассуждают так: раз ГПК получили статус юридического лица, к ним нужно относиться, как к другим юридическим лицам. Но ведь организации бывают разные: одни ведут коммерческую деятельность, другие живут за счет бюджета, а третьи существуют за счет отчислений из зарплат и пенсий членов наших организаций — ГПК. Мы не хотим быть нахлебниками у государства, поэтому просим установить нам тариф на тепло на уровне 100% себестоимости".*

Сегодня себестоимость 1 Гкал тепла составляет 108.468,7 рубля, тариф для населения — 53.773 рубля, для бюджетных организаций — 403.587,69 рубля без НДС, а для гаражных кооперативов — 386.880,18 рубля без НДС. "Если бы снизить нам тариф до уровня себестоимости, не пришлось бы повышать плату за гараж, на все хватило бы этих 30 тысяч в месяц", — говорит председатель правления гаражно-потребительского кооператива "Автовек" Викентий Клименков. Слезные письма отправлены также в Администрацию президента, Министерство жилищно-коммунального хозяйства, Минэкономики. Но оттуда указывают: вы, мол, и так платите меньше бюджетных организаций. Меньше на 4,4%, говорят владельцы гаражей, но бюджетные организации платят за тепло из бюджетных денег, а мы-то — из своего кармана. И продолжают взывать к справедливости.

Последний ответ из Министерства экономики гласил, что там не правомочны вводить понижающие коэффициенты для отдельных потребителей. "В связи с удорожанием в 2011 году цены покупки природного газа из Российской Федерации, изменением общих экономических условий хозяйствования, весьма сложным складывается экономическое положение у энергоснабжающих организаций Минэнерго, что не позволяет увеличить суммы перекрестного субсидирования в тарифах на энергию. Приоритетной задачей в области ценовой политики является ликвидация диспропорций в ценах, в том числе поэтапная ликвидация перекрестного субсидирования..." — ответил заместитель министра экономики Антон Кудасов.

Но о том же просят и члены гаражных кооперативов. Они не хотят никого "перекрестно субсидировать", потому что и сами живут небогато. И предлагают начать ликвидацию "перекрестного субсидирования" с гаражных кооперативов.

**Татьяна КАЛИНОВСКАЯ.**

ПЕРАМОВЫ

## Нам не патрэбны нафтаправод?

Расійская трубаправодная манаполія "Транснефть" гатова пачаць перамовы з уладамі Беларусі па куплі беларускага ўчастка нафтаправода "Дружба" і чакае адпаведнага палітычнага рашэння Мінска. Пра гэта паведаміў віцэ-прэзідэнт "Транснефти" **Міхаіл Баркоў.**

Як перадае Reuters, адказваючы на пытанне, ці можа "Транснефть" набыць беларускі ўчастак нафтаправода, Міхаіл Барков сказаў: "Можам".

Ён паведаміў, што перамовы аб куплі беларускага ўчастка "Дружбы" вяліся і раней.

Нагадаем, што газаправодную сістэму "Белтрансгаз" Беларусь ужо прадала Расіі. Цяпер — чарга за нафтаправодамі. І з чым застанемся?

ФОТАФАКТ



**Такога МАЗа вы яшчэ не бачылі. І амаль ніхто не бачыў. Новы капотны цягач з заводскім індэксам МАЗ 6440РА пакуль існуе толькі ў эксперыментальных экзэмплярах.**

**Новы МАЗ, на які ўстаноўлены рухавік магутнасцю 600 конскіх сіл вытворчасці Мінскага маторнага завода, зараз праходзіць выпрабаванні.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
10 КРАСАВІКА 2012 г.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Бі сваіх...

*Прэзідэнт прызнаў, што існуе спіс “невыязных” беларускіх палітыкаў. Гэта, маўляў, адказ на санкцыі Захаду.*

*Во атрымалася прыгода!*
*Такіх не мелі мы здавён:*
*Тутэйшых “ворагаў народа”*
*Не выпускаюць за кардон.*
*Каб мець “законныя” падставы*
*Іх пасадзіць тут на ланцуг,*
*Прыдумалі чыны дзяржавы*
*Належны спосаб без патуг.*
*Адзін нацдэм, маўляў, суседцы*
*Свае не выплаціў даўгі.*
*За аліменты быць у “клетцы”*
*Павінен “вораг” наш другі.*
*А трэці, што зусім ганебна,*
*Служыць не хоча ў войску, гад.*
*(Адзнаку тут зрабіць патрэбна:*
*Таму “ваяку” — шэсцьдзясят).*
*Чаму ж улада “справы шые”?*
*З кіно вядома нам і з кніг:*
*Каб забаяліся чужыя,*
*Найперш патрэбна біць сваіх.*

# Пахвальба ці пагроза?

*На прэс-канферэнцыі камандуючы ўнутранымі войскамі паведаміў пра трыумфальныя поспехі ва ўмацаванні матэрыяльнай базы: на ўзбраенне паступілі ручныя электрашокеры, пластыкавыя шчыты з усталяванымі туды электрашокерамі беларускай вытворчасці і нямецкія 9-міліметровыя пісталеты Sig-Sauer.*

*Галоўны ўнутранага войска*
*Сабраў пісак.*
*(На добры толк,*
*Тут слова “войска” — вельмі коўзка,*
*З людзьмі ваюе гэты полк.)*
*Сказаў галоўны “шчаўкапёрам”:*
*— Мы зброю набылі як след.*
*Цяпер ужо зусім не сорам*
*На людзі выйсці нам, у свет.*
*Раней дубінкамі махалі...*
*Чым іх, дык лепей мець калы*
*Ці арматурыны са сталі.*
*З дубінак быў эфект малы...*
*Электрашокер — наша зброя.*
*Найлепей, чым “наган” ці “кольт”.*
*Адразу ўзнікнуць глюкі-мроі,*
*Калі ўпулюеш сотню вольт...*
*Са шлемамі былі праблемы,*
*Калі хто трэсне ад душы...*
*Цяпер у нас такія шлемы —*
*Хоць кол на галаве чашы!*
*Шчыты глядзеліся нягегла.*
*Цяпер жа ў нас шчыты — дай Бог!*
*Ці камень, ці кавалак цэглы*
*Ад іх адскочаць, як гарох.*
*Для ўсіх ахоўнікаў парадку*
*Мы пісталеты набылі.*
*Мазгі размазваюць усмятку,*
*І толькі пляма на зямлі...*
*Баіцца хай нацдэм усякі,*
*Як станем шчыльнаю сцяной...*
*І дружна “чэсныя” пісакі*
*Запляскалі*
*У зале той.*
*А ўсе “нячэсныя” пісакі*
*Не разабраліся, на жаль,*
*Які намер быў у “ваякі”:*
*Хваліўся ён*
*Ці іх пужаў?..*

# Жартаўнік

*Старшыня Савета Рэспублікі Анатоль Рубінаў выказаў думку, што Беларусі варта перайсці на расійскі рубель. Калі ж у СМІ з’явіліся абуральныя водгукі, высокі чыноўнік пасняшаўся апраўдацца: маўляў, ягонае выказванне было гумарам, лірыкай...*

*Прапанаваў з сур’ёзным відам*
*Палаты Верхняй старшыня:*
*— Рубель наш —*
*Тайны тут не выдам —*
*Расійскім грошам не раўня.*
*Каб мы купаліся ў раскошы,*
*Каб нам лацвей было ў жыцці,*
*На тыя “пуцінскія” грошы*
*Краіне трэба перайсці.*
*Відаць, падтрыманы быў “верхам”,*
*Калі такое “ляпнуць” мог...*
*Але ўзнялі нацдэмы вэрхал:*
*— Ды гэта ж здрада, далібог!*
*“Нячэснай”, незалежнай прэсы,*
*Як кажуць, трапіў ён пад прэс:*
*— Чые бароніш інтарэсы?*
*— Шпіён расійскі к нам пралез?*
*І ўраз астыў імпэт ягоны,*
*Падумаў раптам “баламут”:*
*“Яшчэ залічыць у шпіёны*
*І сапраўды мясцовы люд...”*
*І ён рашыў паправіць справу:*
*— Намер быў іншы, не такі...*
*Лічыце лірыкай заяву,*
*Бо я даўно пішу “сцішкі”.*
*А хтосьці хай палічыць жартам*
*Той недарэчны мой зварот,*
*Бо гумар —*
*Мець на ўвазе варта —*
*Любіў заўсёды наш народ.*
*Каб клёпкі конча не сапрэлі,*
*Я абдурыў тады людзей.*
*Лічыце, “першага апрэля”,*
*Калі сказаў, было ў той дзень...*

* * *

*За тую “выхадку” пустую*
*Не надта ганьблю старшыню,*
*Бо чынавенства ў нас жартуе*
*Ужо зусім не ўпершыню.*
*Яно калісьці абяцала:*
*— Не абясцэніцца рублі!*
*А потым людзям ясна стала,*
*Што гэта “жартачкі” былі.*
*Пяцьсот даляраў, міні-цэны,*
*Належны выбарчы закон —*
*Букет, калі прыкінуць, цэлы*
*Тых “жартаў” маем мы здавён.*
*А што, прынамсі, мы хацелі?*
*Калі народ дурны, як пень,*
*Улада “першага апрэля”*
*Яму рыхтуе кожны дзень.*

З НАГОДЫ

# Перадавая работніца і яе натхняльнікі

500.000 рублёў, якія работніца Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода Марына Цыбліенка хоча спагнаць з Віктара Івашкевіча за маральныя страты, нанесеныя яго, Івашкевіча, заклікамі да ўвядзення эканамічных санкцый, — гэта прыблізны кошт квітка да Варшавы (зразумела, што мэтай было зрабіць Івашкевіча невыязным).

А вось яшчэ выказванні перадавых рабочых.

“Проста не ўкладваецца ў галаве, каб знайшоўся такі чалавек, які спажывае наш хлеб, жыве ў лепшых умовах і здзяйсняе гнюснасць у адносінах да свайго народа” (Міронаў, начальнік участка цэха аўтазавода імя Ліхачова).

“Ён паклёпнічаў на наш рабочы клас, калгаснае сялянства і інтэлігенцыю, прадаўся капіталістам. Яго трэба судзіць як ворага” (Радыёнаў, рабочы завода шліфавальных станкоў, Масква).

“Мяне да глыбіні душы абураюць заявы і ўчынкі, ягоны здрадніцкі голас — гэта голас адзіночкі” (Глінскі, калгаснік калгаса імя XXI з’езда КПСС Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці).

“Ён на вялікі клопат плаціць подласцю, чорнай няўдзячнасцю. Ганьба такім людзям, ім няма месца ў нашай айчыне” (Рагачоў, слесар-зборшчык завода аўтаматаў, Чымкент).

“Я прапрацаваў на вытворчасці 50 гадоў, і неабыякавы да таго, калі робяць шкоду нашай Радзіме” (Сакалоў, пенсіянер, Ленінград).

“Хачу ад сябе і ад сваіх сяброў спытаць вас і органы: ці не надакучыла? Ад сябе асабіста і маіх таварышаў патрабую прымянення да яго самых строгіх мер у адпаведнасці з нашым заканадаўствам” (Шабалін, цеплатэхнік аб’яднання “Таджыкатлас”).

“Пачакайце, — скажа чытач, — а адкуль тут узяліся Чымкент, Таджыкістан, назва “Ленінград”, які ўжо 20 гадоў як Пецярбург? Пры чым тут яны?”

Ні пры чым, як і Івашкевіч.

Тры першыя цытаты тычацца Пастарнака, дзве другія — Сахарава, дзве апошнія — Салжаніцына. Гэта — Савецкі Саюз, кампаніі супраць нелаяльных да ўлады пісьменнікаў і дысідэнтаў, 1958—1973 гады.

Любілі савецкія прапагандысты біць ідэйнага ворага словамі рабочых і сялян — аж да самага краху імперыі. У 1988 годзе, пасля ўтварэння аргкамітэта БНФ, са старонак афіцыйнай прэсы шліфавальшчыкі, кранаўшчыкі, тынкоўшчыкі і апаратчыкі машыннага даення заяўлялі: “Не трэба нам ніякага народнага фронту!” Праўда, у 1991-м як абрэзала — пасля таго, як у красавіку мінскія рабочыя выйшлі на плошчу і запатрабавалі выкінуць парткамы з заводаў разам з усім прапагандысцкім апаратам.

Нібыта іншыя, новыя людзі сядзяць у кабінетах былога ЦК на Карла Маркса і імкнуцца выглядаць па-еўрапейску. І Наталля Пяткевіч вось нядаўна знялася ў фотасесіі. А выглядаюць як... Ну, не буду абражаць райкамаўскіх цётак. Прыёмы — з суслаўскага арсенала (не сумняваюся, што ініцыятыва позвы да Івашкевіча ішла не ад адміністрацыі Мазырскага НПЗ, а з самай галоўнай адміністрацыі).

Люстрацыі ў Беларусі, як вядома, не было, і пераемнасць метадаў (і ідэалогіі) не парушаная, а адчуванне беспакаранасці — такое ж бясконцае, як і спадзяванні, што ўлада гэтая будзе доўжыцца вечна.

Ва ўсялякім разе да скону дзён яе цяперашніх адэптаў.

А дарэмна. Нічога вечнага не бывае.

Ці не думаюць перадавыя рабочыя і іх натхняльнікі, што гадоў праз колькі, ужо ў дэмакратычнай Беларусі, той жа Івашкевіч можа падаць у суд позву за маральныя страты да спадарыні Цыбліенка? І ацаніць гэтыя страты (а чаго яшчэ чакаць ад ворага працоўнага люду?) — на суму, эквівалентную, напрыклад, кошту мазырскай кватэры?

І ці здолее спадарыня Цыбліенка даказаць суду, што свой учынак у далёкім 2012-м яна зрабіла не па сваёй ініцыятыве? А калі здолее — ці прыме суд яе доказы пад увагу?

**Сяргей НАВУМЧЫК.**

*Прага.*

ТЫМ ЧАСАМ

## Прафкам Мазырскага НПЗ падтрымаў ідэю суда над Івашкевічам

Пасяджэнне прафсаюзнага камітэта Мазырскага НПЗ прайшло ў канцы мінулага тыдня з удзелам прадстаўнікоў усіх цэхаў завода. Усе прысутныя аднагалосна падтрымалі дзеянні аператара ЭВМ Марыны Цыбліенка.

Дарэчы, сама заяўніца адмаўляецца кантактаваць з журналістамі.

ЗАЦЕПИЛО!

## *Министра — в отставку!*

Власти порадовали очередной инициативой — ввести во второй половине 2012 года дифференцированный подход к оплате населением электроэнергии. Планируется, что по льготной цене жители квартир, где установлены газовые плиты, будут оплачивать 150 кВт(ч, а все, что свыше этой нормы, — по себестоимости. Министр энергетики Беларуси Александр Озерец заявил, что якобы “население не пострадает и войдет в эти лимиты, а вот платить больше будут более зажиточные граждане”. Но я уверен, что пострадают как раз малообеспеченные граждане, многодетные семьи.

Приведу пример своей семьи. Нас в четырехкомнатной квартире пятеро. Двое внуков, второклассник и детсадовец, приходят домой, набегавшись на улице, все в грязи. Стиральная машина крутится каждый день, не скучает и утюг. А еще есть монстр-холодильник “Атлант” двухкамерный, микроволновка, электрочайник, кофеварка, два телевизора и компьютер. За месяц до 500 кВт(ч набегает. Оплата электроэнергии тянет не меньше, чем оплата отопления квартиры в зимнее время. А с введением лимита будет больше, чем вся плата за ЖКУ.

На освещение расходуется незначительное количество электроэнергии. В квартире 11 энергосберегающих лампочек. Правда, четыре уже заменили — перегорели. Раньше каждая стоила 15.000 рублей, теперь 43.000 рублей. Так что экономить не на чем. Разве что начать стирать в корыте. Но ведь на дворе XXI век.

Министра, который все это придумал, требую отправить в отставку. А может, еще не поздно отменить предполагаемую систему оплаты электроэнергии.

**Н.А.БОГДАН.**

*Гродно.*

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ...

## Хто панёс адказнасць?

“Народная Воля”, адкажы, калі ласка, на пытанне: ці нясуць адказнасць тыя, хто выносіць смяротныя выракі, і тыя, хто выконвае гэтыя выракі? Размова пра выпадкі, калі расстрэльваюць невінаватых.

Я родам з Віцебшчыны. У 70-я гады мы, тады яшчэ не старыя дзяўчаты, жахаліся чырвоных легкавушак. Бо хадзілі чуткі, што калі сядзе дзяўчына ў чырвоную машыну, то можа знікнуць назаўсёды. Бацькі строга наказвалі дзецям не ездзіць папуткамі.

Праз некаторы час уздыхнулі з палёгкай: знайшлі забойцу і расстралялі. Ніхто ж, канешне, не сумняваўся ў тым, што здзейснена правасуддзе. Але забойствы на гэтым не спыніліся. І толькі праз гады знайшлі сапраўднага забойцу — маньяка Міхасевіча. Ці гэта толькі слухі, што расстралялі невінаватага, ці ўсё ж праўда?

Выбух у метро — страшэннае злачынства. У галаве нармальнага чалавека не ўкладваецца.

Але ці дастаткова некалькіх месяцаў, каб даказаць віну падазроных на ўсе 100 працэнтаў? Не на 99,99 працэнта, а на ўсе 100 працэнтаў? Ці не застаўся хтосьці непакараны? А калі праз некалькі гадоў адкрыецца іншая праўда? І як тады?

Не думала, што два стрэлы грымнуць так хутка. У пост. У самы малітоўны час. Думалася, што будзе яшчэ даследаванне.

**Галіна АЛЯХНОВІЧ,**
**пенсіянерка.**

*Салігорскі раён.*

**Частковы адказ на пытанне нашай чытачкі днямі даў старшыня Беларускай рэспубліканскай калегіі адвакатаў Віктар Чайчыц, выступаючы на навукова-практычнай канферэнцыі, якая праходзіла ў Акадэміі МУС.**

**Віктар Чайчыц паведаміў, што неаднаразова меў зносіны з віцебскім суддзёй Яўгенам Чканікавым, які разглядаў наглядныя скаргі па гэтай справе. Па словах Чайчыца, суддзя пазней казаў: “З матэрыялаў справы я не мог сабе нават уявіць, што там можа быць нейкая памылка, таму што відаць было, што абвінавачаны выходзіў на месца злачынства, паказваў месца пахавання трупаў, на месцы злачынства былі знойдзены яго сляды. Адкуль мне было ведаць, што гэтыя сляды былі пакінуты супрацоўнікамі міліцыі, а прызнальныя паказанні выбіты? Ды і адвакаты ў асобных выпадках прасілі больш аб ласцы, чым даказвалі невінаватасць”.**

**Нагадаем, што справа маньяка Міхасевіча была раскрыта праз 15 гадоў расследавання: толькі ў 1985 годзе ўдалося арыштаваць маньяка, які з 1971 года забіў і згвалціў дзясяткі жанчын у Віцебскай вобласці. Аднак да гэтага часу нявінна былі асуджаны 13 чалавек. Аднаго паспелі расстраляць, трое адседзелі амаль па 10 гадоў, астатнія атрымалі меншыя тэрміны і таксама сядзелі. Тым, хто пацярпеў нізашто, нават не прынеслі прабачэння. Праўда, грашовую кампенсацыю выплацілі. Суддзі, якія выносілі прысуды, як сведчыць галоўны адвакат краіны, сваёй віны не прызнаюць.**

ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО ПРЕЗИДЕНТУ

# В чем его вина?

Мы, рядовые граждане Беларуси, обращаемся к Вам с просьбой обратить более пристальное внимание на историю Сергея Коваленко, который в настоящий момент находится в тюремном заключении, голодает за то, что укрепил на верхушке новогодней елки на площади рядом с красной звездой (символом Красной Армии, СССР и многих других стран Варшавского договора, также имеющим другие многочисленные значения) бело-красно-белый флаг — символ независимости, обретенной белорусской нацией в 1918 году.

Нам не понятно: в чем именно заключается вина Сергея, который за этот поступок привлечен к уголовной ответственности?

Первое: Сергей красную звезду с верхушки елки не снял, а самовольно лишь добавил к ней флаг БНР. Этот поступок можно расценить как хулиганство, но никак не уголовно наказуемое деяние.

Второе: мы не понимаем, почему флаг БНР (наш первый национальный флаг республики, символизирующий ее независимость), считается негативным символом в Республики Беларусь? Мы думаем, что если какие-то люди использовали этот символ в делах, позорящих белорусскую нацию, то виноват не флаг, а люди.

Александр Григорьевич, согласитесь: Вы также воспользовались историческим событием обретения независимости нашей с Вами республикой в 1918 году (символом которого является и бело-красно-белый флаг), став первым президентом суверенной страны. Так почему же он негативный?

Политика независимости (1918 г.) до сего дня не противоречит внешней и внутренней политике нашего с Вами государства, возглавляемого Вами.

В связи с вышеизложенными нашими размышлениями нам понятен поступок Сергея Коваленко — напоминание о таком значительном историческом событии в истории Беларуси и теперешний его протест (объявление голодовки) на чрезмерно суровое наказание за его поступок.

Поэтому мы убедительно просим Вас, Александр Григорьевич, посмотреть на поступок Сергея с нашей точки зрения и, лично пересмотрев дело Сергея Коваленко, дать распоряжение освободить его из заключения, исправив, как мы считаем, судебную ошибку.

Надеемся на понимание.

**Валентина ЯКОВЛЕВА,**
**Регина ДЕДОК,**
**Галина ЛОГАЦКАЯ.**

*Минск.*

# Ваш поезд ушел...

Уважаемая редакция газеты “Народная Воля”!

Я ваш постоянный читатель. Знаю, что только на страницах “Народной Воли” может быть напечатана правда из нашей жизни. Хочу рассказать и свою историю.

— Ваш поезд ушел, — так заявил мне на приеме глава администрации Советского района г.Гомеля О.В.Величко.

Дело в том, что наша семья в 1975 году получила 4-комнатную квартиру по льготной очереди как семья погибших из семи человек. Общий трудовой стаж членов семьи составляет 421 год.

Как известно, на сессии Верховного Совета Республики Беларусь 16 апреля 1992 года был принят закон Республики Беларусь о приватизации жилищного фонда в Республике Беларусь. Закон был подписан Председателем Верховного Совета РБ С.Шушкевичем. Низкий поклон и большое человеческое спасибо этому руководителю, который на своем посту для народа сделал больше, чем некоторые почти за 20 лет нахождения у власти!

Статья 10 этого закона наделила каждого трудоспособного гражданина, в зависимости от стажа работы, денежной жилищной квотой одноразового получения.

Статья 11 закона давала право на получение этой квоты, но реализовать это право семье погибших так и не удалось до настоящего времени. Когда мы обратились за получением жилищной квоты в 1995 году, то нам сказали, что уже якобы кончились чековые книжки, и предложили прийти попозже, когда их напечатают.

Но оказалось, что мы напрасно надеялись на то, что нашу семью как семью погибших государство не обидит и мы сможем приватизировать свое жилье в соответствии с требованиями ст.12 закона, которая гласит “Безвозмездно (с учетом жилищной квоты, суммы квот) передаются жилые помещения отдельным категориям граждан Республики Беларусь в соответствии с законодательством Республики Беларусь”. Администрация Советского района г.Гомеля, игнорируя требования этого закона, заявляет, что жилищной квоты у нас нет, наш поезд ушел и если мы хотим приватизировать жилье, то должны заплатить наличными 75.560.000 рублей.

**Николай Сергеевич ХРАПУНОВ.**

*Гомель.*

ВОПРОС—ОТВЕТ

**Правда ли, что в мире есть железнодорожные ветки, поезда по которым летят со скоростью самолетов?**

**Надежда КИРЕЕВА,**
**студентка.**



## *У поездов взлетная скорость самолетов*

Уважаемая Надежда!

Во-первых, у разных самолетов разная скорость. Пока не слышно, чтобы где-нибудь поезда развивали скорость, скажем, 800—900 километров в час, что для авиалайнеров не является пределом.

Но вот на недавней пресс-конференции вице-премьер Анатолий Тозик привел такой пример. На магистрали Пекин—Шанхай электропоезд развил скорость в 486 километров в час. А это фактически взлетная скорость самолета.

SOS!

# Поможем мальчику-бабочке

***У маленького Пети редкое заболевание, на его лечение требуется 75 тысяч евро. Международным благотворительным фондом помощи детям “Шанс” уже собрано больше половины этой суммы. Но этого недостаточно.***

“В городе Вилейка живет “мальчик-бабочка” — Петя Надточий”, — написал нам житель города Витебска Петр Омельянович, который о судьбе мальчика узнал случайно, но не остался равнодушным.

*“Бабочкой он назван из-за нежной, как крылья бабочки, кожи. Дело в том, что у него редчайшее генетическое заболевание — буллезный эпидермолиз, — писал наш читатель. — Любое неосторожное прикосновение вызывает отторжение верхнего слоя кожи. Все Петино тело покрыто незаживающими ранами. Кроме того, проблемы со слизистыми оболочками, зубами. Пальчики на руках и ногах срослись. Невозможно перечислить все мучения и боль, которые испытывает малыш ежедневно. При этом Петенька, его Мама и Бабушка (умышленно написал с большой буквы) настоящие герои. В свои четыре с небольшим года Петенька умственно развит лучше сверстников. Это потрясающий малыш, мальчик-солнышко. К сожалению, на данном этапе медицина не в силах излечить малыша. Но есть возможность существенно уменьшить его страдания.*

*Мне стыдно, что эта семья в какой-то момент осталась один на один со своей бедой. Медики и власти не только не могут лечить Петеньку, но и не могут обеспечить семью перевязочными материалами (очень дорогими). Единственная организация, которая откликнулась, — Международный благотворительный фонд помощи детям “Шанс”, который занимается централизованным сбором средств на лечение детей. Петя является подопечным фонда”.*

*“Прошу Вас оказать помощь мальчику”,*



— так закончил свое письмо Петр Омельянович.

На сайте благотворительного фонда “Шанс” есть страничка Пети Надточего. http://www.chance.by/home/programs/190.html. На оперативное лечение мальчика нужно собрать почти 75 тысяч евро. Уже собрано чуть больше 42 тысяч евро. Каждый из нас может внести свою помощь, сделать доброе дело для мальчика и для себя. Потому что, помогая другим — мы помогаем себе.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

**Реквизиты для перечислений денег на лечение Пети:**
Банковский перевод через отделения банка:
Благотворительный счет: № 3135000000100 в ОАО “Белгазпромбанк”, г.Минск, код 742.
Получатель: Фонд “Шанс”; УНП 805001111.
Назначение платежа: “Пожертвование на лечение ребенка Пети Надточего”.

САТЫРЫЧНЫМ ПЯРОМ

# У Крэмль Пуціну

## *(Амаль паводле Чэхава)*

Паважаны Уладзімір Уладзіміравіч! Шчыра віншую Вас з абраннем расійскім прэзідэнтам і жадаю вялікіх поспехаў ва ўсім! Вельмі прашу: праявіце боскую міласць і забярыце мяне адсюль, з Беларусі, у сваю краіну, а таксама і ўсіх браткоў-беларусаў. Прабачце, забыўся назвацца. Я — Адам Паддам, палявод калгаса “Дробныя зярняты”, няважна якога раёна і вобласці, бо ўсе мы тут аднолькавыя, як лебяда ў агародзе.

Забярыце, бо ўсё роўна ж забераце, то хочацца як мага хутчэй. Самі мы нягеглыя, бесталковыя; як кажуць палякі, не маем ні мовы, ні гловы. Галовы то на плячах нібыта і ёсць, але што ад іх карысці, калі яны, так бы мовіць, слаба вараць. А ўжо наконт мовы, то і казаць няма чаго: адно слова беларускае, другое рускае, трэцяе польскае. Такі моўны вінегрэт, які называецца трасянкай. Некаторыя ўмеюць размаўляць па-беларуску, але ж іх няшмат, і яны, трэба сказаць, у нашым грамадстве аўтарытэтам не карыстаюцца. Вось хаця б наш калгасны токар Вінцук Свідэрскі. На мове размаўляе, з начальствам за розныя непарадкі на ражон лезе. Ну і якая з таго карысць? Чалавек мае вышэйшую адукацыю, не п’е, а працуе разам з такімі, як я. Ды і то мне больш павагі. Часам, бывае, і прэмію да якога свята падкінуць на бутэльку-другую віна, а яму на галаву толькі шышкі валяцца.

Ды гэта дробязі. Чуў я па радыё, што вы, расіяне, завалодалі нашай вельмі важнай трубой, газавай, здаецца. І адразу ж пасля гэтага прысніў я сон, што ўсім нам, беларусам, хутка будзе труба. А яшчэ чуў, што тым, хто працуе на той, ужо вашай, трубе, плацяць шалёныя па нашых мерках грошы. Вось з гэтым я не згодны, бо таксама хачу атрымліваць шмат грошай.

Не ведаю, ці праўда (бо тут не вельмі ўсякага і слухай: падмануць могуць), але нібыта неўзабаве вы, расіяне, будзеце плаціць зарплату нашым вайскоўцам, бо яны, маўляў, бароняць вашу краіну ад нейкай Наты і ўсякіх іншых ворагаў з Захаду, да так пільнуюць межы, што нават чарвяк не прапаўзе. Дык што, раз у ваеннаслужачага на плячах пагоны, а ў мяне граблі ці лапата, то мне і грошай мала трэба? Так быць не павінна: раз ім вялікую зарплату, то і нам, калгасным паляводам, таксама. Можа, і трактарысты ці даяркі захочуць, то няхай і яны просяцца, а я кажу толькі за сябе. Ды, прынамсі, даяркам і скардзіцца не выпадае: яны ж у нас ужо даўно штомесяц атрымліваюць па васемсот долараў. Пра гэта ведаюць нават у гарадах, дзе зарплата значна меншая, але чамусьці ніхто не прыпёрся ў вёску за такім шалёным заробкам. Чаму так, я сам не ведаю і Вам патлумачыць не магу.

Грошы, чуў я, хутка ў нас таксама будуць агульныя. Хітранькія вы, расіяне, аднак. У нас ужо ёсць купюра ў дзвесце тысяч рублёў. А ў вас хіба такое ёсць? Так што наконт аб’яднання грошай трэба добра памазгаваць.

А ўвогуле, халера з імі, з грашыма. Аб’ядноўвайце, бо за гэтыя дзвесце тысяч рублёў можна купіць хіба што кілаграм смачнай каўбасы, у якой ёсць мяса.

А яшчэ я вельмі хачу ў вашу краіну, шаноўны Уладзімір Уладзіміравіч, бо ў нас ледзь не кожны месяц даражэе віно, я ўжо не кажу пра гарэлку, цана якой пераваліла далёка за дваццаць тысяч рублёў, да трыццаці, словам, набліжаецца. А гэты прадукт мне і маім сяльчанам нават больш патрэбны, чым тая дарагая каўбаса. Віно ў нас з чаго? З яблыкаў-чарвівікаў, так бы мовіць, у адной бутэльцы выпівон і закусон, бо чарвячкоў жа з яблыкаў ніхто не выкалупвае. А ў вашай краіне ёсць свае вінаграднікі, і вінаграднае віно не параўнаць з тым, што вырабляецца з чарвівікаў. Вельмі ж ужо хочацца хоць перад смерцю напіцца чыстага вінаграднага віна, а галоўнае — таннага. Праўда, мая жонка Альбіна кажа, што калі даць мне і маім сябрукам уволю таннага віна, то смерць наступіць імгненна, бо мы, маўляў, піць не ўмеем. Але што слухаць дурную бабу, нібыта яна хоць крыху разумее ў сур’ёзнай мужчынскай справе.

У вашай жа краіне і горы ёсць, і мора, а я ніколі мора не бачыў. Праўда, плявузгаюць няўцямныя мясцовыя кабеты, што п’янаму мора па калена і што мы з сябрукамі тое мора не раз пераадольвалі. Але я мару аб іншым, Чорным, скажам, ці Балтыйскім, каб хоць памыцца, бо ў вёсцы ж лазні няма.

Так што не пакіньце нас, шаноўны Уладзімір Уладзіміравіч, бо раз нестае свайго клёку стварыць годнае жыццё, то трэба прасіцца да разумных людзей. Словам, вазьміце на буксір, нібыта які дабіты калгасны воз, а то целяпаемся ў хвасце ўсёй Еўропы, як мовіць токар-бэнээфавец Вінцук Свідэрскі. А можа, ён і праўду кажа? Ды што там: Вы самі ўсё ведаеце. Вось кажуць: “Умом Россию не понять”, а каб зразумець Беларусь, то і розуму вялікага не трэба. Нават мне, простаму паляводу з калгаса “Дробныя зярняты”, тут усё як на далоні.

**З вялікай павагай —**

**Адам ПАДДАМ.**
**Пры падтрымцы**
**Леанарды ЮРГІЛЕВІЧ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
10 КРАСАВІКА 2012 г.

**АДУСЮЛЬ**

## У Гомелі да 11 красавіка рэкамендуюць хадзіць пешшу

*У Гомелі прапанавалі на шляху да працы не карыстацца грамадскім транспартам.*

Прахадзіць пешшу хаця б адзін прыпынак да працы прапанаваў жыхарам Гомеля мясцовы гарвыканкам. Акцыю "Пешшу на працу" ініцыіравалі ў гонар Сусветнага дня здароўя. Мясцовыя ўлады Гомеля прапанавалі гараджанам паклапаціцца аб сабе і хаця б на працягу аднаго тыдня больш хадзіць пешшу. Удзел у акцыі добраахвотны — грамадскі транспарт свой рэжым працы не мяняе. Акцыя будзе доўжыцца да 11 красавіка.

## Магілёў ужо не той?

*На грамадскае абмеркаванне вынесены новы праект генплана Магілёва.*

Генплан распрацаваны да 2030 года. Згодна з падлікамі, праз 20 гадоў у горадзе будзе жыць 394 тысячы чалавек. А сама тэрыторыя вырасце да 14,166 гектара.

Жыхары Магілёва папрасілі ўжо аб некаторых карэктывах генплана. Так, напрыклад, іх не задаволіў запланаваны знос прыватнага сектара за чыгуначным вакзалам. Папрасілі магіляўчане не кранаць стары аэраклуб і дапрацаваць план цэнтра горада.

## У Мінску распачынаецца паркавы сезон

*Сталічныя паркі атракцыёнаў рыхтуюцца да новага сезона.*

"Боегатоўнасць" зараз правяраюць галоўныя паркі Мінска — Цэнтральны дзіцячы парк імя Горкага і Парк культуры і адпачынку імя Чалюскінцаў. Зараз спецыялісты правяраюць, ці не пашкодзіліся за зіму атракцыёны. Дазвол на запуск выдаецца толькі пасля дасканалай праверкі.

А вось калі дакладна адкрыецца сезон забаў — невядома. Папярэдняя дата — 14 красавіка. Між тым запуск атракцыёнаў адбудзецца толькі ў тым выпадку, калі надвор'е будзе больш нагадваць вясну, а не восень.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

**СЛЕДСТВА**

## Сяргей МАЎРОДЗІ: «Пішыце лісты»

*Заснавальнік фінансавай пірамiды "МММ" Сяргей Маўродзі на сваім сайце заклікаў усіх прыхільнікаў кампаніі "пісаць лісты" ў беларускае СІЗА КДБ, каб падтрымаць паплечнікаў, затрыманых у Беларусі.*

*"Для гэтых людзей вельмі важная зараз і наша маральная падтрымка. Яны не павінны адчуваць сябе ўсімі кінутымі і самотнымі. Яны павінны адчуваць, што за іх спінай — Сістэма!"* — гаворыцца ў звароце Маўродзі. *"Пішыце ім лісты падтрымкі. Прама ў СІЗА",* — заклікаў ён.

У звароце таксама сказана, што ўсім пяцярым затрыманым беларусам будзе аказана *"дапамога на бытавым узроўні — адвакаты, грошы, перадачы і іншае".*

Дзейнасць беларускага офіса "МММ-2011" была спынена органамі дзяржбяспекі Беларусі 16 сакавіка. Абвінавачванні па ч.3 арт.233 КК Беларусі (незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць з атрыманнем даходу ў асабліва буйным памеры, учыненая арганізаванай групай) прад'яўлены пяцярым грамадзянам Беларусі. Паведамляецца, што беларусы аднеслі ў новы МММ больш за 100 тысяч долараў у эквіваленце, прычым уклады прымаліся ў любой валюце. Зараз для ўсіх фігурантаў справы мерай стрымання абрана ўтрыманне пад вартай. Справу расследуе Следчы камітэт.

Дарэчы, ашуканыя ўкладчыкі беларускага МММ пакуль ніякай турботы з нагоды зніклых сродкаў не выказваюць.

**СІТУАЦЫЯ**

## Міністэрства аховы здароўя не падтрымала экспромт віцэ-прэм'ера

*Месяц таму намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Тозік, выступаючы на выніковай калегіі Міністэрства аховы здароўя, прапанаваў браць з беларусаў па пяць тысяч рублёў за наведванне паліклінікі.*

*"Вы кажаце, што трэба нешта рабіць з чэргамі ў паліклініках. У нас у сярэднім на аднаго жыхара прыходзіцца больш за 13 наведванняў паліклінік за год, а ў суседніх краінах зусім іншая статыстыка — 6 або 6,5 наведванняў на аднаго жыхара. Давайце ўвядзём плату ў памеры 5 тысяч рублёў за наведванне паліклінікі. Калі нават памножыць 5 тысяч рублёў на сярэдні паказчык па колькасці наведванняў, то за год выйдзе невялікая сума. Затое кагосьці нават такая сімвалічная плата, магчыма, прымусіць задумацца, а ці на самай справе неабходна звяртацца ў паліклініку",* — сказаў Анатоль Тозік.

Не самую, прама скажам, разумную ініцыятыву віцэ-прэм'ера ціха спусцілі на тармазах.

*"Наведванне паліклінік платным не будзе. Мы глядзім, гатовыя вы ці не. Але ахова здароўя ў нас бясплатная. Ёсць стаматалогія, касметалогія — гэта платна. Астатняе бясплатна. Проста так не трэба будзе плаціць за паход да доктара — не перажывайце",* — сказаў міністр аховы здароўя Васіль Жарко, адказваючы на пытанні падчас "Прамой лініі".

**ФУТБОЛ**

## Усё толькі пачынаецца...

*Прайшлі матчы 3-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: "Мінск" — "Дынама" (Мінск) — 0:0, "Брэст" — БАТЭ — 0:2, "Славія" (Мазыр) — "Шахцёр" (Салігорск) — 0:2, "Белшына" (Бабруйск) — "Нёман" (Гродна) — 0:0, "Гомель" — "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) — 2:0.

### Турнірная табліца

| Каманда | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1.Гомель | 3 | 2 | 1 | 0 | 4—1 | 7 |
| 2.Мінск | 3 | 2 | 1 | 0 | 2—0 | 7 |
| 3.БАТЭ | 3 | 2 | 0 | 1 | 5—2 | 6 |
| 4.Шахцёр | 3 | 2 | 0 | 1 | 5—3 | 6 |
| 5.Дынама (Мн) | 3 | 1 | 2 | 0 | 3—1 | 5 |
| 6.Нёман | 3 | 1 | 1 | 1 | 3—2 | 4 |
| 7.Белшына | 3 | 1 | 1 | 1 | 4—4 | 4 |
| 8.Нафтан | 2 | 1 | 0 | 1 | 2—2 | 3 |
| 9.Тарпеда-БелАЗ | 2 | 0 | 0 | 2 | 0—3 | 0 |
| 10.Брэст | 2 | 0 | 0 | 2 | 1—5 | 0 |
| 11.Славія | 3 | 0 | 0 | 3 | 2—8 | 0 |

# После трагедии...

**Год назад в минском метро прогремел взрыв. Он был такой силы, что образовалась воронка диаметром около 80 сантиметров. 11 человек погибли сразу, почти 200 пострадали. За жизни тяжелораненых минские врачи боролись недели, месяцы... Но еще четверых спасти все же не удалось, и число погибших составило 15 человек.**

**Пострадавшей оказалась вся Беларусь. После 11 апреля 2011 года нам пришлось учиться жить в стране, где произошел теракт. Как и в первые часы и дни после трагедии, когда белорусы консолидировались и проявили свои лучшие качества, так и сейчас мы помним о тех, кто погиб и пострадал в теракте.**

## Александр АЛЕКСАНДРИЯ: «5 марта мне сделали пятую операцию»



**Александр во время лечения в Республиканском центре пластической и реконструктивной микрохирургии на базе Минской ОКБ, с доктором Сергеем Мечковским. Апрель 2011 г.**

*О студенте 2-го курса Академии искусств Александре Александрия мы писали в первые дни после трагедии. На тот момент он перенес две сложнейшие операции, две бригады врачей из госпиталя МВД и Республиканского центра пластической и реконструктивной микрохирургии на базе Минской областной больницы делали все возможное, чтобы сохранить ему ногу.*

— Самое страшное, что я могу быть с протезом, а ведь кого-то нет в живых, — философски рассуждал Саша на больничной кровати. — 19 апреля у меня день рождения, исполняется 20 лет. Теперь в апреле у меня будет их два — 11-го и 19-го.

Саша с ужасом вспоминал о том, что пришлось пережить в метро страшным вечером 11 апреля. В его памяти запечатлелись мельчайшие подробности жуткой трагедии: *"Поезд остановился, открылись двери, и тут же раздался взрыв. Я стоял у входной двери и уже даже сделал первый шаг на платформу. Но ступить на ногу не смог, она как-то ненатурально подвернулась, и я упал. Посмотрел вниз... Часть правой ноги, чуть выше стопы, болталась на коже, джинсы превратились в ошметки. Рядом лежала женщина. Кругом кровь, куски человеческого мяса, дым, запах гари... Кто-то бежал, спасался, кто-то спасал других. Друг попытался нести меня наверх на руках, но моя пораненная нога все время за кого-то цеплялась. Боль была невыносимая, и я попросил опустить меня на платформу. Чуть позже прибежали МЧСники с носилками. Наверху думал только об одном — обезболивающем уколе. Но таких, как я, было много. Врачи "скорой" не успевали помочь всем".*

В госпитале МВД, куда был госпитализирован Александр Александрия, выяснилось, что от удара массивным предметом, видимо, частью перронной скамейки, которая от взрыва превратилась в опасные осколки, ему переломало две берцовые кости, в некоторых местах кости превратились в кашу. Без промедления парень оказался на операционном столе. По миллиметру хирурги отсекали нежизнеспособные участки кожи, мягких тканей, кости. Делали все, чтобы спасти ногу... Утром врачи забеспокоились: нога стала приобретать синеватый оттенок. А это первое свидетельство того, что она плохо снабжается кровью, что чревато ампутацией. На консультацию в госпиталь МВД был вызван ведущий специалист Республиканского центра пластической и реконструктивной микрохирургии на базе Минской ОКБ, кандидат медицинских наук Сергей Мечковский. Было принято решение перевести парня в Республиканский центр, где предстояла новая операция.



**Около Дворца правосудия, во время судебных слушаний над В.Коноваловым и В.Ковалевым. Сентябрь 2011.**

*— Конечно, этого пациента мы помним,* — улыбается год спустя Сергей Мечковский, когда слышит вопрос об Александре Александрия. Нас, журналистов, интересовало, удалось ли врачам сохранить Саше ногу. Год назад для медиков это был главный и принципиальный вопрос. Ведь часть ноги можно было ампутировать, но хирурги считали, что это слишком легкое и простое решение. Они хотели во что бы то ни стало поставить на ноги юношу, пострадавшего в теракте.

*— Александр провел в нашем отделении не так много времени,* — вспоминает Сергей Мечковский. *— Дела быстро пошли на поправку, нога зажила, и на долечивание он был переведен в другое отделение. С тех пор мы не виделись. И это хороший знак: значит, наша помощь ему больше не нужна.*

...Чтобы встретиться с Александром, нам пришлось сделать немало телефонных звонков. За год парень поменял номер мобильного, а домашний мы опрометчиво не записали. Выручили на факультете экранных искусств Белорусской государственной академии искусств: подсказали телефон Сашиного друга.

*— Весь год я хожу на одной ноге, мне было выполнено пять операций, последнюю перенес совсем недавно — 5 марта,* — несмотря ни на что, голос Саши звучит бодро. Он полон оптимизма и планов на будущее.

*— Лечение сейчас заключается в удлинении ноги, которая после операций стала короче здоровой на 8 сантиметров,* — рассказывает парень. *— На ноге установили аппарат Илизарова. По чуть-чуть с августа месяца удалось отвоевать 7 сантиметров. Теперь нога почти дотягивается до пола, я могу расслабленно постоять на обеих ногах. В настоящий момент главная задача — разрабатывать ногу, коленный сустав, потому что более полугода нога не сгибалась, стала очень худой, мышцы слегка атрофировались. В Красном Кресте обещали выделить электростимулятор мышц.*

Саша признается, что весь год жил за те деньги, которые получил от государства как пострадавший от теракта. Ни работать, ни учиться он не мог по состоянию здоровья — был признан инвалидом 2-й группы, а надо было лечиться, хорошо питаться, чтобы восстановление шло быстрее, платить за съемную квартиру. Конечно, помогали родные, друзья, любимая девушка.

*— Сразу после трагедии выплатили в пересчете на доллары 7 тысяч, девальвация сделала из этой суммы 5 тысяч,* — рассказывает он. *— В январе была вторая выплата — около 30 миллионов рублей. Сейчас звонили из территориального центра соцобеспечения, видимо, к годовщине трагедии выплатят какую-то сумму...*

*Деньги мне эти здорово помогли. Медицинские "расходники", лекарства покупаю, много средств уходит на такси, потому что квартиру снимаю в Минске, а ездить приходится в Боровляны, в Минскую областную больницу, я там продолжаю восстанавливаться в отделении осложненной травмы... Огромное спасибо* ***Сергею Юльяновичу Мечковскому, Владимиру Николаевичу Подгайскому*** *за то, что сохранили мне ногу, и* ***Константину Евгеньевичу Хахелько,*** *который сейчас помогает на эту ногу встать.*

О чем не хочет говорить Александр, так это о суде над террористами. Он был на нескольких судебных заседаниях. *"Когда я думаю о суде, приговоре, начинаю еще больше расстраиваться,* — интонации в голосе Саши меняются. *— А врачи запрещают нервничать, мне надо восстанавливаться, встать на ноги...*

*Мне кажется, не все причастные к теракту были на скамье обвиняемых... Я, как и сотни других, стал жертвой какой-то борьбы. Надеюсь, ни у кого не поднимется рука сделать что-то похожее".*

**Мария ЭЙСМОНТ.**

## Василий КАПТЮХ: «В день, когда погиб Рома, я вспоминал его маленьким»

*В тот черный понедельник среди погибших оказался и 21-летний Роман Каптюх, сын заслуженного мастера спорта, бронзового призера Олимпийских игр и чемпионатов мира в метании диска Василия Каптюха. Год спустя отец погибшего парня вспоминает трагедию и рассказывает, почему он выступает против смертной казни террористов.*

— Год прошел, но не было ни одного дня, чтобы мы не вспоминали Рому, — говорит мой собеседник. — Это боль. Саднящая рана. Пытаюсь свыкнуться с мыслью, что сына больше не увижу, но это очень тяжело.

**— Жизнь у Романа только начиналась...**

— Да, 16 марта ему исполнился 21 год, а через месяц трагедия унесла сына. Сейчас на День рожденья Ромы тоже собирались его друзья, тихо посидели, повспоминали.

**— 11 апреля 2011 года вы помните до сих пор?**

— В тот день я был на тренировке, сын оставался дома. Вроде и идти он никуда не собирался. Была прекрасная погода, наступила настоящая весна... А на тренировке мне вдруг вспомнился маленький Ромка. Перед глазами стояли фрагменты, как он учился ходить, тянул ко мне ручки в детской кроватке. Я еще тогда сказал своим ученикам: "Цените каждое мгновенье жизни. В ней так много прекрасного". А в глазах стоял маленький улыбающийся сын... Нет, ничего плохого я не почувствовал, но вот такие воспоминания нахлынули на меня почему-то именно в тот момент, когда взрыв уже произошел. Я вышел из здания, на улице — заплаканные люди. Все куда-то звонят. Сам узнал, что случилось. Сразу же набрал Рому, телефон был недоступен. На машине рванул домой, забежал в комнату сына — его там не было. Жена пошла за Аленкой в детский сад, я помчался туда. Говорит мне: "А Рома уехал в училище и библиотеку". Начали просчитывать время, когда сын ушел, немного успокоились. По нашим подсчетам, он никак не мог оказаться на месте взрыва. Но оказался... Возможно, это судьба.





**— На своей страничке в "Фейсбуке" ваш сын накануне трагедии оставил запись: "Смерти нет — есть Великая сила".**

— Рома был очень грамотным парнем, начитанным. Учеба давалась ему легко, знания просто схватывал на лету. Интеллектуал. У него были прекрасные способности и в спорте, соревнования выигрывал, даже не тренируясь, но не захотел пойти по моим стопам. А сам я никогда ему ничего не навязывал. Все решения сын принимал сам, и это меня только радовало. Он шел своей дорогой, что-то искал. У него в комнате все заставлено книгами, журналами... И мы до сих пор ничего не меняли в этой комнате. Все в том же порядке и на тех же местах, как и 11 апреля 2011 года. Рука не поднимается хоть что-то переставить. Я иногда у сына спрашивал: "Ромка, когда из комнаты исчезнет весь этот хлам?" Тот отвечал: "После моей смерти".

**— Как вы отнеслись к тому, что террористы были расстреляны?**

— Я никогда не был сторонником смертной казни. Это слишком легкое наказание. Мне бы хотелось, чтобы люди, которые совершают такие поступки, всю жизнь с этим жили и это их мучило. Такое наказание гораздо страшнее, чем расстрел. Но террористы из ничего не вырастают. Это недостаток воспитания в обществе, и сегодня мне, как отцу, жаль родителей Коновалова и Ковалева. Родились ведь все одинаковыми. Они, как и мой Ромка, с открытыми глазами смотрели на мир радости, что-то искали... А уже дальше сознание людей менялось. И окружающие не усмотрели, как мальчик первый раз наступил на какого-то жука или ножиком снимал кору с деревца. Корни зла идут оттуда. Это результат социального воспитания, безразличия общества. Почему в свое время парням не сказали: "Так нельзя делать!" Почему вовремя не одернули? Помните фразу: "Это с их молчаливого согласия совершаются все самые страшные преступления на земле"? Я много осмыслил за этот год, и мне просто дико, когда я смотрю на наше общество. Люди совершенно равнодушны. Они живут по принципу: "Лишь бы у меня все было хорошо". А остальное их, может быть, и не беспокоит. Вот я поставил возле подъезда машину, а то, что "скорая" туда не может подъехать, уже никого не интересует. И человек остается равнодушен до тех пор, пока беда не коснется его самого. Вот в этих мыслях я и прожил весь год, который мне дался очень тяжело. Не знаю, как и выдержал. Иногда казалось, что уже и сам не хочу жить. Но потом понимал, что жить стоит хотя бы потому, что могу нести другим какое-то тепло, радость, передавать это своим ученикам. Рома тоже очень-очень любил жизнь...

**Алесь СИВЫЙ.**

## По волнам нашей памяти

Жить — значит оставлять знаки. К сожалению, не только о событиях высоких, знаменательных, о людях выдающихся. Жить — значит помнить трагедии чрезвычайные, жертвы невинные. Хотя это и не укладывается в человеческую логику: случайная смерть... С этим нельзя смириться. Дико! Страшно. Но никто не может вымолить у судьбы страховку.

Завтра у входа в станцию метро "Октябрьская" состоится открытие мемориального знака в память о жертвах теракта 11 апреля. Год назад после взрыва это место было буквально завалено цветами. Спонтанный порыв, искреннее сопереживание белорусов почти на два месяца сделали некогда рядовой вход в метро местом паломничества, настоящей стеной плача. Горели свечи, лежали игрушки, иногда звонили мобильники. Их звук леденил душу, заставляя замедлять шаг... Цветы здесь не успевали завянуть, каждый день появлялись новые букеты.

Вскоре была установлена временная мемориальная доска в память о 15 погибших. Около нее всегда были люди — рана, нанесенная нам 11 апреля, не может затянуться до сих пор.

Завтра здесь появится памятный знак, выполненный в бронзе. "Река памяти" назвал его автор, скульптор Константин Селиханов. Река, волны которой унесли 15 человеческих жизней... Это очень локальный памятник: на бронзовой стеле проступают 15 волн с высеченными на гребнях именами. Внизу всего несколько цифр — дата трагедии в виде электронных цифр. Как на табло в метро. Был только миг между прошлым и будущим. Для 15 наших сограждан тот миг стал роковым.

В годовщину трагедии 11 апреля траурные мероприятия пройдут в храме-памятнике в честь Всех Святых. В крипте храма установят сразу две мемориальные доски: в память о погибших на "Октябрьской" и в подземном переходе станции "Немига" в мае 1999 года.

Памятный знак создан на пожертвования белорусов, а также на средства, выделенные из специального фонда Мингорисполкома.

**Елена МОЛОЧКО.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Антон КУШНІР: «Платон Антонавіч у нас...»

*У вядомага беларускага фрыстайліста Антона Кушніра нарадзіўся сын.*



Нагадаем, што Антон Кушнір з'яўляецца абсалютным уладальнікам Кубка свету па фрыстайле — 2009/10. Яго жонка Наталля ў 2008 годзе ўдзельнічала ў Міжнародным конкурсе прыгажосці "Міс канікулы-2008", дзе атрымала тытул "Міс International". Ажаніліся Антон з Наталляй летам мінулага года.

— Я і хацеў, каб першым быў сын, — распавядае Антон. — Наталля таксама жартавала: "Няхай будзе сынок, каб бараніў мяне. А пасля ўжо можна і пра дзяўчынку падумаць". Але, як мне падаецца, галоўнае, каб дзіця здаровенькае было. А сын ці дачка?.. Гэта ўсё другаснае.

**— Не было жадання накіраваць жонку на роды за мяжу?**

— Не так даўно мне рабілі аперацыю ў Барселоне, а таму адзін чалавек прапаноўваў узяць з сабой Наталлю ў Іспанію. Але, ведаеце, пабаяліся, што Наташа можа дрэнна перанесці пералёт. Не сталі рызыкаваць. Да таго ж у Мінску побач знаходзяцца родныя, заўсёды маглі нешта падказаць, нечым дапамагчы.

**— У апошні час многія мужы прысутнічаюць падчас родаў жонкі...**

— Я не прысутнічаў. І нават ніколі не думаў аб гэтым.

**— Як назвалі сына?**

— Платон Антонавіч у нас. Праўда добра гучыць? Імя выбіралі па хрысціянскім календары.

**— Бачу, што ходзіце пакуль з мыліцай...**

— 23 красавіка ў мяне афіцыйна заканчваецца адпачынак, затым будзе медыцынскае абследаванне. Залечваць балячкі, напэўна, буду ў Славеніі. Урач мне сказаў, што аперацыя прайшла паспяхова і ў хуткім часе нават можна будзе трэніравацца. Але не выключаю, што давядзецца зноў ехаць у Іспанію на дадатковы агляд нагі.

**— У 2014 годзе, калі пройдзе зімовая Алімпіяда ў Сочы, Платону будзе ўжо два гады. Які падарунак збіраецеся яму зрабіць на Гульнях?**

— Спадзяюся, што падарунак будзе ў залатым аздабленні.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



## У рэдакцыю «Народнай Волі»

Выказваем шчырую ўдзячнасць усім, хто выказаў спачуванні нашаму глыбокаму гору з прычыны заўчаснай смерці жонкі, маці і бабулі **Ірыны Сяргееўны МАРАЧКІНАЙ**.

**Сям'я Марачкіных.**

ПИСЬМО ИЗ-ЗА РЕШЕТКИ

# Дело со смещенным центром тяжести

*Это письмо в "Народную Волю" прислала бывшая руководительница модельного агентства "Зара" **Ирина КАРАВАЕВА.** В апреле 2007 года ее осудили на 10 лет за торговлю... людьми.*

*Рассказ некогда успешной бизнес-леди о тюремной и прошлой жизни показался нам любопытным, печатаем его с небольшими сокращениями.*



### Модный приговор

Роль тюрьмы в жизни современного белорусского общества невозможно переоценить. В 2004 году в Беларуси была провозглашена борьба с торговлей людьми. Как результат, 20 апреля 2007 года на моем сердце выжгли неизгладимый рубец в виде приговора суда, рана от которого болит и кровоточит до сих пор.

Следствие, испуская глубокие вздохи, велось около двух лет. Все это время большинство из десяти обвиняемых томились в стенах "Володарки". Не назвать это следствие пыточным я бы не посмела. Но не участвовать в шоу мы не могли — выбор был сделан за нас, а наша горькая участь предопределена.

На мой взгляд, это был торжественный, тщательно срежиссированный процесс — на уровне Каннского фестиваля. По красной ковровой дорожке продефилировали директора почти всех агентств моделей Беларуси: **Тамара Гончарова, Сергей Нагорный, Саша Варламов** *(тогда еще в качестве приглашенного гостя и не предполагавший, что нет пророка в своем Отечестве и сколько бы добра ты ни сделал, камней будет больше, чем цветов),* а также другие не столь выдающиеся фигуры белорусского бомонда.

Один за другим доставались скелеты из старых, пыльных антресолей. Показания потерпевших собирали, как могли: то с помощью уговоров, то с помощью оказания психологического давления... Но соблазн раскрутить так называемое "дело директоров модельных агентств" был слишком велик: на кону стояли звезды на погонах и кресла в высоких кабинетах...

Всех фигурантов процесса свалили до кучи и скопом обвинили в торговле людьми в составе организованной преступной группы, не разбираясь, кто есть кто, изначально заверяя всех в дружелюбии. На деле — забивая камнями.

Статья 181 — 10 лет лишения свободы — модный приговор.

А ведь когда-то у меня был офис в стиле *hi-tech* в центре города. Рабочий кабинет с компьютерным столом. Из огромных окон я лицезрела панораму нашего начинающего принимать европейский облик города, и небо над головой казалось безоблачным и светлым. Секретарь интересовалась у меня, буду ли я пить кофе и какие мероприятия запланировать на предстоящий день.

Водитель ждал меня в "Мерседесе" класса "Elegance", чтобы увезти на *lunch* в гламурное кафе, где мы с подругами, уплетая суши, довольные и счастливые, будем обсуждать светскую жизнь города.

Переливистыми трелями и голосами иностранных букеров и агентов мой мобильный телефон доносил мне новости мира моды со всего земного шара.

Альпы — зимой, Лазурный берег — летом. Все это — вполне стандартный современный набор житейских благ каждой второй уважающей себя метросексуалки и космополитки. В цивилизованной метрополии, такой как Москва, все это вряд ли вызовет приступ зависти или удушья грудной жабы у нормальных людей.

Но для гордой и независимой Беларуси, идущей под стягом непримиримой борьбы против модельного бизнеса как воплощения сексуальной эксплуатации вообще и экспорта местных красавиц на зарубежные подиумы в частности, он оказался чужд, враждебен, неприемлем...

Здесь же вам не Рублевка с Петром Листерманом!

### Другая жизнь

Когда на моих хрупких запястьях щелкнули наручники, для меня началось загробное существование. Ах, какой же "жертвой медовой" стала я для отечественных блюстителей Фемиды, начинающих борцов с торговлей людьми, закинувших удочку на авось, а поймавших золотую рыбку!

Следователи попрекали меня даже гардеробом от кутюр!

В одном из своих выступлений экс-замглавы Администрации президента — она же спецдокладчик ООН от Беларуси по проблеме торговли людьми — Наталья Петкевич отметила: *"Женщины имеют все возможности для того, чтобы реализоваться в Беларуси во всех ипостасях".*

Но любая женщина еще имеет и право на свое собственное тело. И отдавать это право налево никто не хочет.

Так за что же покарали директоров модельных агентств? За то, что помогли нескольким нашим простым девчонкам окунуться в невиданную доселе атмосферу Dolce Vita, а некоторым счастливицам и вообще стать постоянными резидентами подмосковных люксовых деревенек, где они счастливо обитают и поныне?

Для многих девушек мы были добрыми феями, превращающими золушек в прекрасных принцесс. Бедные, бедные феи!

В отместку за это я прошла через мясорубку всех карательных учреждений Беларуси. На моей памяти не было ни одного заключенного, которого бы столько раз возили в дурдом, сколько меня. Меня поистязали аминазином и галоперидолом.

Меня привязывали к кровати, кормили через зонд. Планомерно доводили до слабоумия. В психбольнице меня стерегли по пять человек, вооруженных спецсредствами. Неужели действительно так и должны стеречь психов? А то что? Мне кажется, что все это делалось целенаправленно, чтобы держать в страхе моих близких родственников, чтобы они даже и не пытались писать жалобы, обращаться к правозащитникам.

В канун Нового 2008 года по пути следования в гомельскую исправительную колонию №4 меня медленно провезли в автозаке мимо моего бывшего офиса, чтобы я вдоволь могла налюбоваться неоновыми огнями, украшавшими модное здание из стекла и бетона, расположенное в центре нашей столицы.

Это и был такой своеобразный "прощальный подарок"...

### Сладкое рабство?

Агентство моделей "Зара", которым я руководила, — это был своего рода элитарный закрытый клуб, объединивший моделей-подружек, имевших богатых любовников в Москве, что позволяло им ездить по дорогим курортам зимой и летом, организовывая при этом фотосессии с известными фотографами, участвуя в престижных дефиле.

Нельзя объявить, что женщина сексуально свободна, если она не свободна экономически. Могли ли модели в такого рода поездках испытывать моральную или физическую боль? Либо их заставляли путем угроз, шантажа и обмана выполнять непосильную работу за мизерное вознаграждение? Отнюдь, белорусские модели были абсолютно свободны в своем выборе везде и всегда. Они имели возможность участвовать в престижных конкурсах, дефиле, лично познакомиться и пообщаться с дизайнерами, звездами эстрады и шоу-бизнеса, сформировать иное мировоззрение, чувство стиля и вкуса.

И из такого "рабства" их было за уши не вытянуть.

Роль жертвы внушили женщинам мужчины-следователи.

Тщательно маскируя свои карьеристские цели и задачи благими намерениями, они пытались изобразить директоров модельных агентств как алчных существ, этаких валькирий и вурдалаков, близких к нечистой силе, убеждая, что их следует бояться, презирать и ненавидеть.

Настоящая эксплуатация — не экономическая либо политическая; настоящая эксплуатация — психологическая. Психологическая эксплуатация — это запрет быть самим собой. Это отказ воспринимать человека таким, какой он есть на самом деле, подавление личности, подрыв основ гуманизма, суть грубейшее нарушение прав человека. Это абсолютная победа зла.

По образованию я филолог, выпускница Лингвистического университета. Я с болью в сердце восприняла известия о трагической гибели двух выпускников моего вуза, которые работали переводчиками в Венесуэле и представляли там интересы нашего государства.

Мы же, никого не убив и не покалечив, получили по 10 лет лагерей.

Мы не крали шапку Мономаха, не взрывали метро и не торговали Родиной оптом и в розницу.

Кстати, большинство моделей основного состава агентства моделей "Зара" благополучно слиняли за границу — в Канаду, США, ЮАР, Италию, Кипр, где укрылись от настойчивых требований сотрудников МВД дать показания против директора агентства "Зара".

*"Я не считаю себя потерпевшей",* — таков был ответ многих.

Со дня суда минуло 7,5 года, некоторые из нас все еще отбывают наказание по приговору суда.

Неужели мы еще недостаточно извинились за то, что ездили на бэушных "мерседесах"?

А я все еще продолжаю надеяться на запоздалое прозрение Главы государства, на осознание того, что проблему работорговли сознательно раздули, "гиперболизировали" до абсурда с целью получения целевой субсидии от ООН.

Нас лишили свободы, но никто не сможет отобрать у нас право на память, и я уверена, что через 30—40 лет мы будем полностью реабилитированы...

**Ирина КАРАВАЕВА** *(считаю себя незаконно осужденной)*.



**Ирина Караваева. Хозяйка модельного агентства "Зара". Тогда и сейчас (в центре).**

**ДОСЬЕ «НАРОДНОЙ ВОЛИ»**

**Как прозвучало 20 апреля 2007 года в Минском городском суде, Ирина Караваева, учредитель агентства моделей "Зара", признана *"виновной в участии в преступной организации, сводничестве, торговле людьми, совершенной организованной группой, совершенной в отношении заведомо несовершеннолетних с целью сексуальной эксплуатации, в также виновной в покушении на торговлю людьми".* Ее осудили на 10 лет колонии общего режима.**

**Кроме того, Караваева должна выплатить 6 миллионов рублей морально потерпевшим и больше 31 миллиона — в доход государства.**

### КСТАТИ

*Судья Минского городского суда **Игорь Крот**, который вел резонансное дело о торговле людьми, не так давно написал заявление об уходе.*

*Напомним, что Крот был внесен в списки невъездных в Европу.*

ШЧЫРАЯ РАЗМОВА

## Аляксандр МЯДЗВЕДЗЬ: «Калі б здароўе дазваляла, я і зараз выступіў бы на Алімпіядзе за такія грошы»



*Да пачатку летніх Алімпійскіх гульняў у Лондане застаецца крыху больш за тры месяцы. Трохразовы алімпійскі чэмпіён па вольнай барацьбе **Аляксандр МЯДЗВЕДЗЬ** распавёў "Народнай Волі" пра свае сакрэты падрыхтоўкі да Алімпіяд і даў парады сённяшнім алімпійцам.*



— Да Гульняў мы рыхтаваліся заўсёды сур'ёзна, — распавядае суразмоўца. — Зборы праходзілі на спецыяльнай базе, харчаванне адрознівалася ад звычайнага. Яно было больш каларыйнае, шведскі стол накрывалі.

**— І што давалі алімпійцам?**

— Вельмі шмат садавіны, рыбы, якую мы нават самі ездзілі лавіць. Цялят, бараноў прывозілі, спецыяльна — літоўскі мёд з пылком. Урачы нам распрацавалі такую дыету. Цудоўная рэч для аднаўлення сілаў! Акрамя таго, харчаваліся "касмічным" шакаладам з вітамінам Е, які заўсёды ўжывалі і касманаўты.

**— Чым ён адрозніваўся ад звычайнага?**

— Горкі чорны шакалад, але, натуральна, не параўнаць з тым, што прадаваўся і прадаецца ў магазінах. Бо зроблены без хімічных дабавак.

**— А "разведчыкі" іншых каманд за алімпійцамі са зборнай СССР сачылі напярэдадні Гульняў?**

— Быў выпадак, калі прыехалі на Алімпіяду, якая праходзіла ў Мехіка. Я заўсёды дрэнна сябе адчуваю ў высакагор'і, у Мексіцы ў мяне павысіўся ціск. І вось перад спаборніцтвамі падыходзіць балгарскі барэц Асман Дураліеў і кажа: "Ведаю, Саша, што ў цябе з ціскам праблемы". А я з гэтым Дураліевым амаль дзесяць гадоў змагаўся, і ён увесь час быў другім ці трэцім. Праўда, на дыване Асман сам "здуўся", не хапіла яму здароўя, каб перамагчы мяне. Але вось жа нехта данёс яму пра мой стан здароўя. Думаю, нехта з нашай зборнай, зайздроснікаў хапала. Асабліва Іваніцкі — быў такі...

**— Перадалімпійскія інтрыгі?..**

— Хапала гэтага дабра. Напрыклад, перад Алімпіядай у Мюнхене мяне як капітана зборнай выклікалі ў Маскву, каб я выказаў сваё меркаванне аб змене галоўнага трэнера каманды Аляксандра Якіна. На яго нехта ананімку напісаў, і Якін думаў, што гэта зрабіў менавіта я. Праўда, пасля высветлілася, хто гэта зрабіў, і, тым не менш, разборкі праходзілі.

**— А на вас такія ананімкі не пісалі?**

— Пісалі, але па іншай лініі. Не хачу пра гэта ўспамінаць...

**— Ці былі ў вас на Гульнях нейкія талісманы?**

— Заўсёды з сабой браў самбісцкія барцоўкі. Я іх сам знізу падклейваў гумай, каб не такія слізкія былі. Шчаслівыя яны для мяне — вось і вазіў па ўсіх Алімпіядах. Пасля яны нават трэснулі ад поту, падараваў затым камусьці.

**— Свае ўласныя сакрэты ў вас былі?**

— Не памятаю такога. Праўда, на Гульнях у Токіа мне трэба было зганяць вагу, прыехалі ў Японію з Уладзівастока на параходзе. Узялі з сабой шмат мінеральнай вады — "Нарзану", "Баржомі". Мне трэба каля дзесяці кілаграмаў вагі сагнаць, піць нельга, але вельмі хацелася. І вось увесь час здавалася, што "мінералку" разбяруць да таго, як я закончу спаборнічаць. І я кожны раз, калі хадзіў у сталовую "абазначыцца", прыносіў у нумар па дзве бутэлькі "Баржомі". Мне трэнер Праабражэнскі кажа: "Аляксандр, ты ўсе шафы заставіў сваёй мінералкай. Навошта яна табе?" Дарэчы, так тыя дзве скрыні вады, што я нацягаў у нумар, і засталіся там. Мне ж здавалася, што, калі забароны не будзе, вып'ю ўсё. Дзе там! Адолеў толькі бутэльку. А праз сценку, дзе я жыў, пастаянна капала з крана вада. Дык я там і краны ўсе парамантаваў.

**— А ў царкву не хадзілі перад Алімпіядай, каб памаліцца ды свечку паставіць за будучы поспех?**

— А хто ж дазваляў у тыя гады ў царкву хадзіць?! Адзін з баскетбалістаў зборнай Саюза пахрысціў малога, дык яго не пусцілі на Гульні. Вось такія часы былі!

**— Сёння розныя медыцынскія спецыялісты, самі спартсмены выказваюцца, што секс дапамагае паказваць высокія спартыўныя вынікі...**

— Мы ж без жонак ездзілі на Алімпіяды, які там секс? З нас патрабавалі толькі вынікі!

**— А, як кажуць, "расслабіцца" дазвалялі мужчынскай кампаніяй?**

— Так, асаблівых забарон не было, галоўнае, каб усё ў норме. Збіраліся, шашлыкі смажылі... У нас было ў зборнай шмат мусульман, якія наогул не пілі.

**— Наколькі вядома, шматнацыянальная была каманда?**

— З васьмі чалавек у зборнай сямёра — розных нацыянальнасцяў. І трэнер — татарын.

**— Аляксандр Васільевіч, што для сённяшніх алімпійцаў галоўнае пры падрыхтоўцы?**

— Адказнасць і разуменне гэтай адказнасці. Трэба абстрагіравацца ад журналістаў, іншых момантаў, якія перашкаджаюць у рабоце. Калі псіхалагічна чалавек не падрыхтуецца, то яму канец. Я ж бачу, што, здараецца, малады спартсмен выходзіць змагацца — і ён ужо збялеў ад страху. Спужаўся да таго, як напалохалі. Усё залежыць ад таго, як спартсмен сам падышоў да справы.

**— Сёння за "золата" беларускім алімпійцам дадуць 150 тысяч долараў. Матэрыяльны стымул мае вялікае значэнне для спартсмена?**

— Безумоўна. Калі б здароўе дазваляла, я і зараз выступіў бы на Алімпіядзе за такія грошы. За першае месца на Гульнях у Мюнхене я атрымаў 300 долараў і быў задаволены. Радаваўся і не ведаў, што купіць — футра для жонкі ці сувеніры. А зараз — толькі перамагай і атрымлівай грошы, за якія можна набыць не толькі футра.

**Алесь СІВЫ.**



Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906
nv@promedia.by
http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya

ISSN 2071-9647

Падпісныя індэксы: 63222, 632222

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 9.04.2012 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 28350 экз. Заказ №1588.